## Здарэнні

# МАГЛО БЫЦЬ І ГОРАЙ...

***МЯДЗЕЛ. Ледзь-ледзь не закончыўся трагічна адпачынак у санаторыі «Белая Русь» для сямігадовага Антона Ціпанкова з Крычава.***

Прыехаў ён у здраўніцу разам са сваім татам. Аднойчы яны распачалі гарэзлівыя гульні на балконе. У азарце нават забыліся аб элементарнай асцярожнасці і бяспецы. А калі апамяталіся, было ўжо позна — хлопчык сарваўся з балкона, паляцеў уніз з чацвёртага паверха і ўдарыўся аб зямлю.

Хаця пацярпеўшага і даставілі адразу ў рэанімацыйнае аддзяленне Мядзельскай раённай бальніцы, «прызямліўся» ён, калі так можна сказаць, удала. Пры падзенні з такой вышыні Антон толькі пашкодзіў крыху скіўіцу і атрымаў лёгкае страсенне мазгоў. Праз дзень яго ўжо перавялі ў іншае аддзяленне і патрымалі на ўсялякі выпадак з тыдзень пад наглядам урачоў.

— Хлопчыку проста пашанцавала, — сказалі ў размове медыкі. — Ён адкараскаўся лёгкім спалохам. Вынікі ж такога «палёту» маглі быць куды больш цяжкімі, нават трагічнымі...

*Наш кар.*

# Жыццё людское — не капейка.

***ВІЛЕЙКА. У трынаццатым магазіне нечакана закончылася жыццё 62-гадовай вілейскай пенсіянеркі 12 чэрвеня.***

У магазін яна прыйшла, відавочна, за пакупкамі. Проста ў чарзе жанчыне стала дрэнна, яна ўпала. Падаспеўшая «хуткая» канстатавала смерць.

*Аддзел інфармацыі.*

# Асцярожна — прыбіральшчыца!

***МАЛАДЗЕЧНА. Раней былі ў пашане псіхатэрапеўты, потым лекары-траўнікі, а ў апошні час хворыя аддаюць перавагу мануальнай тэрапіі. Асабіста я супраць яе нічога не маю. Але ёсць людзі, вельмі далёкія ад медыцыны, якія спрабуюць нажыцца на здароўі іншых.***

Спецыялістам па мануальнай тэрапіі прадставілася галоўнаму ўрачу паліклінікі завода «Спадарожнік» адна прывабная асоба. І нават дыплом з сумачкі дастала, як сведчанне сваіх магчымасцей. Прапанавала лекарка медыкам свае паслугі, маўляў, завадчан па льготнай «таксе» на ногі ставіць буду, гэта значыць за адзін сеанс неабходна заплаціць 20-25 тысяч «касавокіх». Але радужным марам і надзеям гэтай спадарыні наканавана было разбіцца аб горкую сапраўднасць.

Калі галоўны ўрач стаў збіраць даведкі наконт дадзенай асобы, то аказалася, што яна зусім не мануальны тэрапеўт, а... прыбіральшчыца, якая мела доступ да бланкаў дыпломаў.

Вось так пільнасць аднаго чалавека выратавала сотні хворых ад паслуг лжэтэрапеўта, а безадказнасць другіх ледзь не стала ракавой памылкай. Так што перш чым давяраць некаму, раю вам навесці аб ім усе даведкі. Не пашкодзіць.

***Ірына ШАСТАКОВІЧ.***

## Пяць хвілін з пісьменнікам

***У новай рубрыцы мы даём слова Міколу Капыловічу, беларускаму пісьменніку, які адзін з першых звярнуў увагу на «Рэгіянальную газету». Прыязна да яе паставіўшыся, Мікола Фаміч прапанаваў рэдакцыі некалькі невялічкіх твораў, большасць з якіх напісана на нашым, мясцовым матэрыяле. Тэмы падказвае жыццё. Так некалі нарадзілася серыя «Начны мэр», дзе празаік расказвае пра выпадкі з працы яго вахцёрам у маладзечанскім гарвыканкоме. Гэтыя карацелькі мелі поспех не толькі ў чытача мясцовага друку, а і ў падпісчыкаў «Народнай газеты», «Чырвонкі», «Полымя», «Маладосці», іншых рэспубліканскіх выданняў. Новыя творы Міколы Капыловіча -- працяг і развіццё «Начнога мэра». А чаму рубрыку назвалі «Пяць хвілін з пісьменнікам»? Думаю, простае словазлучэнне правільна акрэслівае задумку-- пабыць сам насам з пісьменніцкім словам, яго персанажамі, хай усяго толькі пяць хвілін. Гэта дапаможа задумацца над тым, у якім свеце мы сёння жывём.***

***Мікола ГАЙДУК***

# ЯК ЦЕШЧА ЦВІКІ ВАРЫЛА

Пасля дзяжурства сеў у электрычку, каб ехаць у Мінск. Перада мною на сядзенні ўмасціліся два маладыя дзяцюкі: адзін — нізкі і круглы, як качан, другі — худы і доўгі, як жэрдка. Яны адзін аднаго, зразумеў, добра ведаюць, бо працягваюць гутарку распачатую на пероне.

Я прыслухаўся.

— Дык, кажаш, едзеш у Аляхновічы дачу крыць? - крутнуўся на сядзенні, каб ямчэй было сядзець, высокі.

— І не абы якімі, а цешчынымі цвікамі, — загадкава ўсміхнуўся нізкі.

— Як — цешчынымі?

— Каторыя яна ў каструлі загартавала.

— Варыла іх, ці што?

— Ага, — кіўнуў галавою нізкі. — Загартавала ў кіпені так, што ні адзін цяпер не сагнецца пад малатком. Адмысловыя атрымаліся цвікі. Магу і табе рэцэпт даць. Мо спатрэбіцца.

— Давай!

— Дык добра слухай і дома запішы на паперу, каб не забыцца. — Нізкі зірнуў сабе пад ногі, дзе ляжала сумка з цвікамі. — Справа была такая... У суботу мая жонка паехала была ў Смаргонь. З начлегам. Да сваёй сястры. А я застаўся дома. З цешчай. Сумна стала. Пайшоў у парк. І там дзве бутэлькі піва апрыходаваў. Спёка нутро смажыла. Ну, вярнуўся дамоў. Паглядзеў тэлевізар і лёг спаць. А на другі дзень жонка прыязджзае. Раніцай. Цешча адазвала яе ў кухню і, чую, нешта нашаптала. Ну, думаю, супраць мяне нейкую «дыверсію» рыхтуюць.

Так яно і выйшла. Як толькі цешча выйшла на двор, каб пасушыць на лаўцы з суседкамі язык, жонка адразу і накінулася, як каршун, на мяне: «Дзе ты ўчора, абармот, цягаўся?! Чаму п'яны ледзь ногі прывалок?» «Нічога нідзе не піў, — кажу жонцы, — толькі дзве бутэлькі піва высмактаў. Гэта маці твая выдумала. Ёй і піва гарэлкай здаецца». Не паверыла, ноччу спіной да мяне адвярнулася

Злосць мяне ахапіла. За што, думаю, яна — цешча значыцца — паклёп на мяне ўзвяла? Чым я ёй не дагадзіў? Піва выпіў — апошнім алкашом зрабіла. А калі б, дапусцім, я налізаўся, як свіння, і ў міліцыю загрымеў? Што б тады было, га? Не, няма, думаю, у старой клёпак у галаве. Трэба абавязкова ўстаўляць. Пакуль не позна. Лячыць. І вырашыў узяцца за яе лячэнне. З дапамогай урачоў. Спярша трэба было паставіць дыягназ хваробы, што ў яе галаве не ўсё ў парадку...

Хлопец памаўчаў, засунуў глыбей пад сядзенне сумку з цвікамі, каб не перашкаджала нагам.

— Дык слухай, што было далей... Значыцца пра дыягназ... Хутка яго паставілі без мяне... Ага. На другі дзень жонка пайшла на работу. А я зноў з цешчаю адзін на адзін застаўся. Водпуск жа ў мяне. Ага, сяджу на канапе і воўкам на яе пазіркваю. Нават тыграм. Гатовы быў, здаецца, яе праглынуць. І выплюнуць. Не, думаю, я табе такое не прапушчу, я табе мазгі ўстаўлю. Здам у бальніцу. Няхай там з табою разбіраюцца і лечаць. І здаў... Як было? Прынёс з каморы на кухню мо з кілаграм цвікоў, усыпаў іх у каструлю з вадою і кажу цешчы:: «Заўтра, Віктараўна, паеду дачу крыць. Зрабі карыснае дзела: звары на пліце цвікі, няхай яны ў гарачай вадзе загартоўку пройдуць. У кіпені. Каб потым не гнуліся, калі буду біць па іх малатком». Каб загладзіць перада мною сваю віну, ахвотна згадзілася... Паставіла яна каструлю з цвікамі на пліту, уключыла-падпаліла газ і... Я, калі ўбачыў такое, адразу кінуўся ў спальню. Да тэлефона. Набраў нумар «хуткаў дапамогі». Калі ў трубцы азваўся голас, крыкнуў: «Прыязджайце хутчэй, цешча звар'яцела!» І адрас назваў. Не прайшло і пяці хвілін, як у кватэру ўскочыла брыгада санітараў. Шапчу ім у калідоры: «На кухні яна. Суп з цвікоў варыць». Медыкі кінуліся туды, убачылі, што цешча памешвае лыжкаю ў каструлі цвікі, падхапілі яе пад рукі, пасадзілі ў машыну і адтарабанілі ў бальніцу. Вярнулася яна толькі на другі дзень. Чорная ў твары, як зямля, на мяне нават вокам не зірнула. Моўчкі звязала сваю адзежу і выскачыла з клункам з кватэры. І ракетай паляцела на вакзал. У Смаргонь рванула. Да малодшай дачкі.

Нізкі змоўк, а высокі, пачуўшы такое, доўга круціў галавою, не ведаў па першым часе што рабіць: верыць ці не верыць пачутаму?

І ўсё ж паверыў, пачухаў патыліцу і сказаў:

— Заўтра і мне трэба лезці на дах. Хату перакрываць. Папрашу і я ў цешчы, каб загартавала цвікі.

***Мікола КАПЫЛОВІЧ.***

## Даведка. Транспарт

# РАСКЛАД

### руху пасажырскіх цягнікоў па станцыі Мінск-Пасажырскі Беларускай чыгункі з 28 мая 1995 года

| NN цягнікоў | маршрут руху | прыб. | адпр. | прыб. на канечн. станцыю | дні абарачэння |
|---|---|---|---|---|---|
| **На Маскву** | | | | | |
| 88 хутк. | Вільнюс—Масква | 00.05 | 00.20 | 13.13 | па цот. |
| 10 хутк. | Варшава—Масква | 00.43 | 00.53 | 12.19 | штодня |
| 150 хутк. | Калінінград—Масква | 01.43 | 01.58 | 15.36 | штодня |
| 126 хутк. | Варшава—Масква | 01.55 | 02.07 | 15.04 | штодня |
| 196 пас. | Брэст—Масква | 02.42 | 03.00 | 17.22 | штодня |
| 132 хутк. | Брэст—Масква | 06.52 | 07.06 | 20.01 | штодня |
| 36 хутк. | Беласток—Масква | 08.05 | 08.21 | 21.19 | штодня |
| 70 хутк. | Берлін—Саратаў | 11.32 | 11.44 | 20.04 | 30/5-19/9 Ндз., Аўт. з 24/9 Ндз. |
| 542 пас. | Брэст—Горкі | 12.54 | 13.06 | 15.35 | 18/6-30/8 |
| 26 хутк. | Мінск—Масква | — | 16.23 | 06.05 | штодня |
| 2 хутк. | Мінск—Масква | — | 19.49 | 09.05 | штодня |
| 14 хутк. | Берлін—Масква | 20.01 | 20.14 | 09.12 | штодня |
| 6 хутк. | Вільнюс—Масква | 19.59 | 20.22 | 09.27 | штодня |
| 22 хутк. | Прага—Масква | 20.43 | 20.56 | 09.39 | штодня |
| 30 хутк. | Калінінград—Масква | 20.53 | 21.07 | 09.52 | штодня |
| 4 хутк. | Мінск—Масква | — | 21.31 | 10.25 | штодня |
| 28 хутк. | Брэст—Масква | 21.48 | 22.00 | 10.46 | штодня |
| 78 хутк. | Гродна—Масква | 21.49 | 22.08 | 11.10 | штодня |
| 16 хутк. | Брусель—Масква | 22.15 | 22.28 | 11.17 | штодня |
| 74 хутк. | Брэст—Масква | 22.36 | 22.48 | 11.45 | штодня |
| 282 пас. | Гродна—Унеча | 22.45 | 23.07 | 11.50 | па няцот. |
| **На Полацк, Віцебск, Санкт-Пецярбург** | | | | | |
| 190 пас. | Львоў—С.-Пецярбург | 11.54 | 12.14 | 08.06 | штодня |
| 52 хутк. | Мінск—С.-Пецярбург | — | 15.26 | 10.30 | штодня |
| 675 пас. | Мінск—Полацк | — | 17.08 | 00.06 | штодня |
| 50 хутк. | Брэст—С.-Пецярбург | 17.44 | 18.00 | 11.41 | штодня |
| 684 пас. | Гродна—Віцебск | 22.45 | 23.07 | 05.05 | па цот. |
| 652 пас. | Баранавічы—Полацк | 23.37 | 23.58 | 08.35. | штодня |
| **На Калінінград, Рыгу, Вільнюс** | | | | | |
| 29 хутк. | Масква—Калінінград | 23.51 | 00.06 | 11.25 | штодня |
| 287 пас. | Гомель—Рыга | 23.53 | 00.14 | 12.50 | па няцот. |
| 285 пас. | Гомель—Калінінград | 02.47 | 03.04 | 15.37 | па цот. |
| 5 хутк. | Масква—Вільнюс | 03.43 | 03.58 | 08.30 | штодня |
| 149 хутк. | Масква—Калінінград | 05.31 | 05.49 | 17.47 | штодня |
| 87 хутк. | Масква—Вільнюс | 05.40 | 06.00 | 10.40 | па няцот. |
| 187 пас. | Брэст—Талін | 11.05 | 11.25 | 06.49 | штодня |
| 137 хутк. | Адлер—Рыга | 18.06 | 18.18 | 05.50 | 2/6, 5/6-1/10 па няцот. |
| 211 пас. | Харкаў—Калінінград | 20.19 | 20.34 | 08.46 | Аўт., Пт. |
| 75 хутк. | Кіеў—Рыга | 21.06 | 21.24 | 09.02 | Аўт., Пт. |
| **На Гомель, Кіеў, Сочы, Сімферопаль** | | | | | |
| 650 пас. | Гродна—Гомель | 00.43 | 00.58 | 06.18 | па цот. |
| 76 хутк. | Рыга—Кіеў | 01.29 | 01.44 | 14.22 | Чц., Ндз. |
| 182 пас. | Мінск—Сімферопаль | — | 03.05 | 14.16 | па цот. |
| 248 пас. | Гродна—Днепрапятроўск | 03.50 | 04.15 | 07.39 | па няцот. |
| 212 пас. | Калініград—Харкаў | 05.27 | 05.42 | 04.10 | Чц., Ндз. |
| 286 пас. | Калініград—Гомель | 07.33 | 07.49 | 13.20 | па няцот. |
| 288 пас. | Рыга—Гомель | 07.33 | 07.49 | 13.20 | па цот. |
| 348 пас. | Мінск—Адэса | — | 08.25 | 13.00 | з 3/6 па 1,3,7,5,19,23,27,[illegible] чыслам кожн. мес. |
| 668 пас. | Гродна—Гомель | 08.42 | 09.03 | 15.40 | штодня |
| 102 хутк. | МінскВарна | — | 12.13 | 11.12 | 31/5-27/9 па Сер. |
| 72 хутк. | Мінск—Кішынёў | — | 12.13 | 15.48 | Чц., Ндз. |
| 170 хутк. | Мінск—Данецк | — | 12.48 | 21.37 | па цот. |
| 690 пас. | Мінск—Сураж | — | 15.10 | 01.12 | штодня |
| 38 хутк. | Мінск—Адлер | — | 16.26 | 17.14 | па цот. |
| 108 хутк. | Мінск—Калінкавічы | — | 16.34 | 23.45 | штодня |
| 604 пас. | Баранавічы—Гомель | 07.01 | 17.21 | 23.10 | штодня |
| 110 хутк. | Мінск—Наварасійск | — | 17.40 | 12.24 | з 3/6 па 3,7,11,15,19,23,27 чыслам кожн. мес. |
| 146 хутк. | Мінск—Кіславодск | — | 19.28 | 16.32 | па няцот. |
| 138 хутк. | Рыга—Адлер | 19.49 | 21.01 | 18.16 | 29/5-27/9 па няцот. |
| 106 хутк. | Мінск—Кіеў | - | 12.47 | 11.53 | штодня |
| 100 хутк. | Мінск—Сімферопаль | - | 22.35 | 07.02 | па няцот. |
| 630 пас. | Баранавічы—Жыткавічы—Житомір | 22.44 | 23.06 | 11.00 | 13.53 штодня |
| **На Брэст, Гродна, Львоў** | | | | | |
| 247 пас. | Днепрапятроўск—Гродна | 00.16 | 00.31 | 09.32 | па цот. |
| 9 хутк. | Масква-Варшава | 00.43 | 00.53 | 09.00 | штодня |
| 27 хутк. | Масква—Брэст | 01.07 | 01.19 | 05.45 | штодня |
| 13 хутк. | Масква—Берлін | 10.05 | 10.20 | 05.46 | штодня |
| 643 элек. | Мінск—Брэст | - | 03.17 | 11.40 | па Пт. |
| 77 хутк. | Масква—Гродна | 03.16 | 03.31 | 09.57 | штодня |
| 73 хутк. | Масква—Брэст | 03.26 | 03.38 | 08.18 | штодня |
| 649 пас. | Гомель—Гродна | 04.32 | 04.53 | 12.14 | па няцот. |
| 651 пас. | Полацк—Баранавічы | 04.50 | 05.16 | 08.00 | штодня |
| 189 пас. | С.-Пецярбург—Львоў | 05.15 | 05.36 | 22.51 | штодня |
| 629 пас. | Житомір—Жыткавічы—Баранавічы | 05.24 | 05.53 | 08.57 | штодня |
| 49 хутк. | С.-Пецярбург—Брэст | 05.59 | 06.13 | 11.20 | штодня |
| 21 хутк. | Масква—Прага | 06.13 | 06.31 | 06.51 | штодня |
| 603 пас. | Гомель—Баранавічы | 06.40 | 07.05 | 09.53 | штодня |
| 15 хутк. | Масква—Брусель | 07.28 | 07.40 | 13.22 | штодня |
| 195 пас. | Масква—Брэст | 08.46 | 09.01 | 15.24 | штодня |
| 131 хутк. | Масква—Брэст | 10.34 | 10.46 | 15.17 | штодня |
| 617 элек. | Мінск—Брэст | - | 13.09 | 19.55 | па раб. дн. |
| 69 хутк. | Саратаў—Берлін | 16.37 | 16.49 | 11.55 | 28/5-17/9 Ндз., Пт. з 22/9 Пт. |
| 271 пас. | Мінск—Ів.Франкоўск | - | 17.53 | 13.15 | па няцот. |
| 187 пас. | Талін—Брэст | 17.52 | 18.13 | 23.23 | штодня |
| 659 пас. | Мінск—Брэст | - | 18.36 | 05.20 | штодня |
| 541 пас. | Горкі—Брэст | 18.50 | 19.02 | 23.41 | 17/6-27/8 па няцот. |
| 125 хутк. | Масква—Варшава | 19.39 | 19.50 | 05.43 | штодня |
| 35 хутк. | Масква—Беласток | 20.03 | 20.20 | 07.50 | штодня |
| 103 тур. | Мінск—Варшава | - | 21.52 | 08.00 | штодня |
| 619 элек. | Мінск—Брэст | - | 22.00 | 04.17 | акрамя Пт., Сб |
| 667 пас. | Гомель—Гродна | 23.05 | 23.25 | 07.44 | штодня |
| 281 пас. | Унеча—Гродна | 23.22 | 23.39 | 07.07 | па цот. |
| 683 пас. | Віцебск—Гродна | 23.22 | 23.39 | 07.07 | па цот. |

# Праграма тэлебачання

## Понедельник, 26 июня

### Белорусское телевидение

15.00 Новости. 15.10 К Дню освобождения Беларуси. «Время выбрало нас». Худ. фильм («Беларусьфильм»). 1-я серия. 16.15 Творческое об»единение «Мой мир». Все обо всем. Информационно-познавательная программа. 16.35 Литературные встречи. К выходу второй части «Очерков истории Беларуси». 17.15 «Хранители духовных сокровищ» цикла «Чечерский альбом». 17.40 «Взгляд в будущее». К 50-летию Организации Об»единенных Наций. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 «Голоса прошлого». По страницам фестиваля «Возрождение Белорусской капеллы». 19.15 На добрый лад. Телеочерк. 19.25 У нас дома. 20.00 Спортивный телекурьер. 20.20 Протокол. Международная программа. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Клип-концерт. 21.50 День столетия. 21.55 «Поездка в Висбаден». Худ. фильм. В перерыве (23.00) - Новости. 23.40 «Премьер-кино» на Ш Международном кинофестивале женского фильма. 0.05 Под куполом Вселенной.

### 1 канал

16.05 «Элен и ребята». Молодежный телесериал. 16.30 Рэп. 17.00, 20.00 Время. 17.20 Премьера телесериала «Тропиканка» (Бразилия). 18.10 Час пик. 18.35 «Угадай мелодию». Телеигра. 19.05 Если... 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.40 Встреча с А.И.Солженицыным. 21.00 «Вдовы». Телесериал. 21.55 Версии. 22.10 Гол. 22.40 Эксклюзив. В некотором царстве, в некотором государстве. 23.20 Новости.

### Канал «Россия»

16.00, 19.00, 22.00 Вести. 16.20 Новая линия. 16.50 «Моя война». С.Булаевский. 17.20 Лауреаты премии «Тэфи». 17.25 «К-2» представляет: «Сюжет». 18.15 Купить - не купить. 18.25 Устами младенца. 19.25 Подробности. 19.35 «Последний раз ее видели...» Худ.фильм (Великобритания). 20.40 Репортер.»Блокада». Часть 2-я. 21.00 Момент истины. На вопросы А. Караулова отвечает В.Сипачев. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 «Неудобная женщина». Худ.фильм (США).3-я серия. 23.35 Экран криминальных сообщений.

## Вторник, 27 июня

### Белорусское телевидение

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Зеркало Си-эн-эн. 8.05 Студия «Политика». 8.20 День столетия. 8.25 Финансовое время. 8.40 Туроб»ектив. Путешествия, встречи, отдых. 9.00 Протокол. Международная программа. 9.15 «Сенсация». Худ. фильм. 10.10 Автопарк. 10.25 «Все мы родом из детства». П Всебелорусский телефестиваль юных талантов. Витебская область. Часть 1-я. 11.55 «Нов и К»-топ. 15.00 Новости. 15.10 «Время выбрало нас». Худ. фильм. 2-я серия. 16.25 «Поздравляем с юбилеем». Вокальная студия г.Могилева. 16.55 «Кайстра». «Песня моя Полесье». Видеочерк. 17.30 Уроки Н.Новожиловой. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 «Темная комната». Медицина под маской. 19.20 К 50-летию окончания второй мировой войны. Пресс-импреза. Три вечера со студией «Артэ» (ФРГ). 20.05 «Лада ОМС» представляет: «Моя любовь, моя печаль». Телесериал. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Скрижали. Артур Шопенгауэр. 21.40 Клип-концерт. 21.50 Реклама. 22.00 «Сенсация». Худ. фильм. 23.00 Новости. 23.15 Экономикст. 23.25 «Музыка без границ». Класс профессора В.П.Скороходова. 0.05 Под куполом Вселенной.

### 1 канал

16.05 «Элен и ребята». Молодежный телесериал. 16.30 Джем. 17.00, 20.00 Время. 17.20 «Тропиканка». Телесериал. 18.10 Час пик. 18.35 «Угадай мелодию». Телеигра. 19.05 Тема. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.40 Из первых рук. 20.55 Баскетбол. Чемпионат Европы. Мужчины. Сборная России -сборная Испании. В перерыве (21.35) - Версии. 22.35 Хит-парад Останкино. 23.20 Новости.

### Канал «Россия»

16.00, 19.00, 22.00 Вести. 16.20 Новая линия. 16.50 Будни. 17.20 Никто не забыт. 17.25 Наш сад. 17.55 Непопулярная тема. 18.10 L-клуб. 19.25 Подробности. 19.35 «Актриса». Худ.фильм. 21.15 Хоккей. Кубок Стэнли. Финал. 1-й период. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Хоккей. Кубок Стэнли. Финал. 2-й и 3-й периоды.

## Среда, 28 июня

### Белорусское телевидение

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Зеркало Си-эн-эн. 8.15 «Лада ОМС» представляет: «Моя любовь, моя печаль». Теле-сериал. 8.45 Скрижали. Артур Шопенгауэр . 8.50 «Сенсация». Худ. фильм. 9.45 «Зорная ростань». Телеконкурс молодых артистов эстрады. Финал. Передача 13-я. 10.40 Телеклуб «Гав-гав». 11.05 Тэлесябрына. 11.25 Мультфильмы. 12.00 Видимо-невидимо. 15.00 Новости. 15.10 «Время выбрало нас». Худ. фильм. 3-я серия. 16.20 К 15-летию ансамбля «Неруш». Концерт. 17.10 «Крок». «Пять звезд». Телеигра. 18.00 Футбол. Кубок Беларуси. Финал. «Динамо» (Минск-93) - »Торпедо» (Могилев). В перерыве (18.45) - АТН. 19.50 К 50-летию окончания второй мировой войны. Пресс-импреза. Три вечера со студией «Артэ» (ФРГ). 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Студия «Политика». 21.50 Клип-концерт. 22.00 День столетия. 22.05 Реклама. 22.15 «Сенсация». Худ.фильм. 23.15 Новости. 23.30 Экономикст. 23.40 Столица. 0.10 Под куполом Вселенной.

### 1 канал

16.05 «Элен и ребята». Молодежный телесериал. 16.30 Тинтоник. 17.00, 20.00 Время. 17.20 «Тропиканка». Телесериал. 18.10 Час пик. 18.35 «Угадай мелодию». Телеигра. 19.05 В поисках утраченного. Зоя Федорова. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.45 Жан Габен в фильме «Садовник из Аржантея»(Франция). 22.15 Версии. 22.35 Новые обыватели. 23.00 Новости.

### Канал «Россия»

16.00, 19.00, 22.00 Вести. 16.20 Дальний Восток. 16.55 Футбол. Чемпионат России. «Торпедо»(Москва) - «Динамо» (Москва). 19.25 Подробности. 19.35 «Санта-Барбара». Худ.фильм. 20.30 Домино Михаила Боярского. 21.05 Зал ожидания. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 «Неудобная женщина». Худ. фильм (США). 4-я серия. 23.35 Экран криминальных сообщений.

## Четверг, 29 июня

### Белорусское телевидение

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Студия «Политика». 8.15 День столетия. 8.20 «Сенсация». Худ.фильм. 9.15 «Нам лето дарит чудеса». Концерт детских художественных коллективов г.Барановичи. 9.55 Уроки Н.Новожиловой. 10.25 Мультфильмы. 11.00 Королевская охота. 11.40 К 50-летию Победы. Телевизионный Дом кино. «Поют актеры театра и кино». Часть 1-я. 12.25 Мастерская. Художник и время. 15.00 Новости. 15.10 «Время выбрало нас». Худ. фильм. 4-я серия. 16.20 «Кайстра». «Записки сумасшедшего». Телеспектакль. 17.55 SOS. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.50 Экономикст. 19.00 К 50-летию окончания второй мировой войны. Пресс-импреза. Три вечера со студией «Артэ» (ФРГ). 19.55 «Крок». «Своевременно». Информационная программа. 20.25 Студия «Эксклюзив». Весы. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Студия «Политика». 21.50 Клип-концерт. 22.00 Реклама. 22.10 «Сенсация». Худ. фильм. 23.10 Новости. 23.25 «Крок». «Большая Медведица». Кино и видео для молодежи. 23.55 Под куполом Вселенной.

### 1 канал

16.05 «Элен и ребята». Молодежный телесериал. 16.30 ...До 16 и старше. 17.00, 20.00 Время. 17.20 «Тропиканка». Телесериал. 18.10 Час пик. 18.35 Лотто «Миллион». 19.05 «Чтобы помнили...» Ю.Демич. Авторская программа Л.Филатова. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.40 Москва. Кремль. 21.05 Шон Коннери и Брижит Бардо в фильме «Шалако»(Великобритания). 23.10 Версии. 23.30 В мире джаза. 23.55 Новости.

### Канал «Россия»

16.00, 19.00, 22.00 Вести. 16.20 Новая линия. 16.55 Карьера. 17.25 «Давно стихами говорит «Нева». 18.10 «Сиди и смотри». Юмористическая программа. 18.25 Караоке по-русски. 19.25 Подробности. 19.35 «Санта-Барбара». Худ. фильм. 20.30 Сам себе режиссер. 21.05 Киноафиша. 21.15 Хоккей. Кубок Стэнли. Финал. 1-й период. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Хоккей. Кубок Стэнли. Финал. 2-й и 3-й периоды.

## Пятница, 30 июня

### Белорусское телевидение

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Зеркало Си-эн-эн. 8.15 Студия «Политика». 8.30 «Лада ОМС» представляет: «Моя любовь, моя печаль». Телесериал. 9.25 «Телебом». Шоу-школа. 10.05 «Пиковая дама». Худ.фильм. 11.35 Телевизионный Дом кино. «Поют актеры театра и кино». Часть 2-я. 15.00 Новости. 15.10 «Время выбрало нас». Худ.фильм. 5-я серия. 16.15 К Дню освобождения Беларуси. «Поют ветераны». Концерт. 16.40 Мультфильм. 16.55 «23 градуса 40 минут на восток от Гринвича». Передача из Бреста. 17.25 Коллаж. Программа для деловых людей. 17.55 SOS. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 Тэлесябрына. 19.05 Диалоги о спорте. 19.25 Студия «Ч/Б». Новый порядок приема абитуриентов в высшие и средние учебные заведения. Прямая линия. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Студия «Политика». 21.50 Клип-концерт. 22.05 Экономикст. 22.15 Акколада. Артем Троицкий. 22.45 «Сенсация». Худ.фильм. В перерыве (23.00) - Новости. 23.55 Волчок-шоу. Пародийно-равлекательная программа. 0.20 Под куполом Вселенной.

### 1 канал

17.00, 20.00 Время. 17.20 «Тропиканка». Телесериал. 18.10 Дикое поле. 18.30 Человек и закон. 19.00 Поле чудес. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.45 «Вдовы». Телесериал. 21.40 Версии. 21.55 Баскетбол. Чемпионат Европы. Мужчины. 1/4 финала. 23.45 Музобоз. 0.25 Новости.

### Канал «Россия»

16.00, 19.00, 22.00 Вести. 16.20 Новая линия. 16.50 Никто не забыт. 16.55 Дисней по пятницам. «Три жизни Томазины». Худ.фильм. 18.40 Горячая десятка. 19.25 Подробности. 19.35 «Санта-Барбара». Худ.фильм. 20.30 Лидер-прогноз. 21.05 «К-2» представляет: «Сюжет». 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 В мире авто- и мотоспорта.

## Суббота, 1 июля

### Белорусское телевидение

8.00 Экономикст. 8.10 Зеркало Си-эн-эн. 8.25 «Фантазия». Фильм-концерт. 8.45 Сокровища. Детский сеанс:

9.05 «Лулу - ангел цветов». Мультсериал. 9.35 Студия «Колыбельная». Все дело в шляпе. Развлекательно-познавательная игра-викторина для малышей. 10.05 Здоровье. 10.35 К Дню освобождения Беларуси. Тэлесябрына. «Эта разная война...» Передача 1-я. 11.05 «Родословная Аксиневичей». Телеочерк. Часть 1-я. 11.35 «Возьму твою боль». Худ.фильм. 13.00 Адвокат. Право на образование. Прямая линия. 14.00 К Дню освобождения Беларуси. «Поклонитесь, внуки, деду...» 14.30 «Четвертое измерение». Духовно-просветительский канал. 15.20 «Так это было...» К 50летию парада Победы в июне 1945 года. 15.40 Многозвучие. 16.10 «Крок». «Живая земля». Экологическая программа. 16.30 Зорная ростань. Телеконкурс молодых артистов эстрады. Финал. 17.45 Мультфильм. 18.00 «Тропическая жара». Худ.фильм. 19.00 Футбол. Кубок Интертото. Финал. «Днепр»(Могилев) - »Бечей»(Югославия). 2-й тайм. 19.45 Финансовое время. 20.00 Международные спортивные новости. 20.35 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 «Нов и К»-топ. 22.15 «Сельчане». Часть 1-я. 22.50 «Звезды» на экране. «Русский транзит». Худ.фильм. 6-я серия. 23.50 Видимо-невидимо. Новости кино-видео-аудио. 0.50 Под куполом Вселенной.

### 1 канал

6.30 Телеутро. 7.45 Слово пастыря. Митрополит Кирилл. 8.00, 14.00, 0.10 Новости. 8.20 Зов джунглей. 8.50 «Секреты моего лета». Телесериал. 9.25 Утренняя почта. 10.00 Смак. 10.15 Здоровье. Медицина для тебя. 10.45 Провинция. Малые города России. 11.15 Бомонд. 11.30 «Четыре пера». Худ.фильм (Великобритания). 13.25 Зеркало. 14.20 Большие гонки. 14.50 «Будь проклята война». Док.фильм. Фильм 4-й «Битва за Берлин». 15.35 В мире животных. 16.10 Счастливый случай. 17.00, 20.00 Время. 17.25 «Киновек - человеку». 5-й международный кинофестмваль в Санкт-Петербурге. 18.10 Луи де Фюнес в комедии «Жандарм и жандармы в юбках» (Франция). 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.45 «Вдовы». Телесериал. 21.40 Человек недели. 21.55 Баскетбол. Чемпионат Европы. Мужчины. Полуфинал. 23.45 У всех на устах.

### Канал «Россия»

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.20 Звезды говорят. 7.25 Река времени. 7.35 «От винта». Детям о компьютерах. 7.50 С.Беликов в гостях у «Студии «Рост». 8.05 Пилигрим. 8.50 Никто не забыт. 8.55 Парламентская неделя. 9.40 Семь нот в тишине. 10.10 «Как жить будем?» 10.55 «Д»Артаньян и три мушкетера». Худ. фильм. 1-я серия. 12.25 «Помнишь ли ты..?» Музыкальная программа. 12.40 Крестьянский вопрос. 13.20 Де факто. 13.35 «Мегрэ защищается». Худ. фильм сериала «Расследования комиссара Мегрэ». Часть 1-я. 14.25 Клип-антракт. Г.Липина. 14.30 Звезды Америки. 15.00 Белая ворона. 15.45 Праздник каждый день. 15.55 Футбол. Чемпионат России. «Спартак» (Москва) - «Локомотив» (Нижний Новгород). 18.00 Шарман-шоу. 19.25 «Мой нежно любимый детектив». Худ.фильм. 20.55 Мультфильм для взрослых. 21.15 Хоккей. Кубок Стэнли. Финал. 1-й период. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Хоккей. Кубок Стэнли. Финал. 2-й и 3-й периоды.

## Воскресенье, 2 июля

### Белорусское телевидение

8.00 «Спасибо, солдат». Док.фильм. 8.25 Сущность. Духовная программа. 9.10 «С любовью к земле родной». Концерт. Детский сеанс 9.40 «Конан и его молодые бойцы». Мультсериал (США). 10.10 «Волшебник Лад и семь принцесс». Музыкальная сказка. Часть 5-я. 10.25 О шахматах и шахматистах. 10.55 Туроб»ектив. Путешествия, встречи, отдых. 11.15 Уроки Н.Новожиловой. 11.45 Арсенал. Программа для армейцев. 12.15 «Родословная Аксиневичей». Телеочерк. Часть 2-я. 12.45 Все в порядке, мама! Развлекательная программа. 13.15 «Брызги шампанского». Телеочерк. 13.25 Ситуация. Почти детективная викторина. 13.55 Авто-парк. 14.10 Победитель. Спортивно-развлекательная передача. 14.30 Белорусы зарубежья. 15.05 К Дню освобождения Беларуси. Тэлесябрына. «Эта разная война...» Передача 2-я. 15.25 С музыкой на «Вы». Эдди Тырманд: мой реквием. 16.00 «После Победы». Док. сериал Белорусского телевидения. Фильм 5-й «Дорогие мои минчане». Часть 1-я. 16.40 Чемпионат мира по мотогонкам. 17.10 Приглашаем на вечерки. 18.10 «Лада ОМС» представляет: «Моя любовь, моя печаль». Телесериал. 18.40 Бездельник. 19.00 Телевизионный Дом кино. По следам «Созвездия-95». Встреча с народным артистом Украины Н.Олялиным и артисткой Н.Наумовой. 19.50 SOS. 20.00 Резонанс. 20.45 Колыбельная. 21.05 Ток-шоу «Карамболь» с участием Василия Раинчика. 21.35 Реклама. 21.45 «Небесный тихоход». Худ.фильм. 23.05 Королевская охота. 23.45 Под куполом Вселенной.

### 1 канал

6.30 Телеутро. 8.00, 14.00, 23.45 Новости. 8.20 С утра пораньше. 8.50 «Ну, погоди!» Мультфильм. Выпуски 15-й и 16-й. 9.15 Пока все дома. 9.45 Утренняя звезда. 10.30 Служу России! 11.05 Всемирная география. Тележурнал «Исследователь». 11.50 Вся Россия. 12.15 Охранная грамота. 12.45 В эти дни 50 лет назад. 13.00 Под знаком «пи». 13.45 Спорт в обед. 14.20 Променад в Мариинском. 15.10 Клуб путешественников. 16.00 Америка с М.Таратутой. 16.30 «Приключения Мюнхаузена». Мультсериал. 16.50 Живое дерево ремесел. 17.00 Время. 17.20 Театр + ТВ. 18.00 Один на один. 18.30 Кумиры, кумиры... Тото Кутуньо. 19.10 КВН-95. Четвертая игра сезона. 21.00 Воскресенье. 21.55 Баскетбол. Чемпионат Европы. Мужчины. Финал.

### Канал «Россия»

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.20 Звезды говорят. 7.25 Река времени. 7.30 Гостиница «Деда Мазая». 7.45 Золотой ключик. 8.00 Мировая деревня. 8.30 Футбол без границ. 9.15 Завтрак для чемпионов. 9.45 Аты-баты... 10.15 Консолидация. 10.20 Русское лото. 11.05 «Д»Артаньян и три мушкетера». Худ. фильм. 2-я серия. 12.40 Крестьянский вопрос. 13.20 «Мегрэ защищается». Худ.фильм. Часть 2-я. 14.15 Арт-обстрел. «Рыбный день» в ателье мадам Селицкой. 14.45 Праздник каждый день. 14.55 Чемпионат мира по автогонкам в классе «Формула-1». Гран-при Франции. 17.00 Волшебный мир Диснея. «Русалочка», «Новые приключения Винни Пуха». 18.00 Аншлаг Ко. 19.25 Сделано в Голливуде. В.Аллен и Б.Мидлер в фильме П.Мазурски «Сцены из универмага». 21.00 Клип-антракт. Г.Лепс. 21.10 Коробка передач. 21.25 У Ксюши. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 «Цветаева и Ахматова». Программа Л. Аннинского.

